Сепа 60 gr. Цана 60 гр.

NIWA
Tygodnik Z.G. Białoruskiego
Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

# Ніва

Тыднёвік
Г.П. Беларускага
грамадска-культурнага таварыства

№ 49 (186) БЕЛАСТОК, 5 КАСТРЫЧНІКА 1958 года ГОД III

Аб некаторых пытаннях мастацкай самадзейнасці

## Што рабіць у доўгія вечары?

Прышла восень. а за ёй ідзе зіма. Хутка скончацца палявыя работы. Настануць доўгія зімовыя вечары. Чым будзе займацца моладзь на вёсцы ў гэты час? Ці па старому, выпрабаванаму метаду будзе праводзіць час за картамі, гарэлкай, ці па новаму за кніжкай, пры культурна - асветнай працы?

Як жа хацелася б, каб другі метад праводжання часу здабыў на вёсцы поўнае і моцнае права грамадзянства. Але адно жаданне тут нічога не паможа.

Існуюць спецыяльныя ўстановы, якія падрабязна займаюцца гэтай справай, ад якіх залежыць у першай ступені, ці значна зменшыцца стасаванне першага метада праводжання вольнага часу на вёсках. Гэта шматлікія ўстановы, якія, так сказаць, у руках трымаюць культурнае жыццё краіны.

Так, як па тэматыцы жыццё беларускіх вёсак нам бліжэйшае, будзем і гаварыць аб гэтым.

Як жа часта і густа на беларускай вёсцы ўсеўладарна пануе нудны, нездаровы першы спосаб праводжання вольнага часу. Чаму? Хто вінаваты ў гэтым? Ці толькі сама вясковая моладзь, якая «не цікавіцца культурным жыццём?» Па-нашаму не так яно ёсць. Моладзь на нашых вёсках не мае актуальных цікавых, даступных матэрыялаў. Добра, калі ў вёсцы ёсць рухлівы, з ініцыятывай настаўнік, ці настаўніца, якія арганізуюць і дапамагаюць арганізаваць моладзі культурнае жыццё вёскі, якія часта з вялікім намаганнем вышукваюць падыходзячы матэрыял (п'есу, танец, песню).

Але там, дзе такога настаўніка няма, што там?

Дзе тады моладзь возьме беларускую п'есу, танец, дапасаваныя да сваіх умоў? Такіх матэрыялаў няма ні ў кнігарнях, ні ў бібліятэках.

Калі нават моладзь ужо падбярэ якую - небудзь п'есу (больш ці менш удала), то ізноў праблема: дзе атрымаць адпаведныя ўборы? Нібы, на гэтае пытанне адказ такі: у павятовых Дамах культуры. Але, нажаль, ані беларускіх матэрыялаў, ані убораў там, скажам ясна, няма.

Было ўжо раней некалькі метадычных нарад культурна - асветных працаўнікоў, прысвечаных спецыяльна культурнай працы ў беларускім і змешаным асяроддзі. Даваліся канкрэтныя ўказанні, як вырашаць тыя ці іншыя пытанні культурнай працы ў такіх асяроддзях. Цяпер, калі аб гэтым думаеш, насоўваецца міжволі адзін вывад: культурныя працаўнікі не ўмеюць так працаваць, каб самім ствараць патрэбны сцэнічны матэрыял. І беларускае самадзейнае мастацтва ў нас не развіваецца нават на здавальняюча.

На нашу думку ў такім выпадку трэба даць для вёскі гатовы ўжо матэрыял. І то даць не па адным экземпляры, а проста «засыпаць» разнародным матэрыялам.

Хто гэта зробіць?

Найперш і найхутчэй Міністэрства культуры, заказваючы такія матэрыялы ў БССР.

Зразумела, тут павінна існаваць паразумленне з ГП БГ-КТ адносна тэматыкі і прыдатнасці гэтых матэрыялаў у нашых умовах.

Выдавецкаму аддзелу не пад сілу забеспячэнне мастацкай самадзейнасці матэрыяламі, хоць на будучыню ён павінен прадбачыць і такія пазіцыі.

Лічым таксама, што трэба ў Беластоку заснаваць магазін - пазычальню ўбораў, інструментаў і іншых дапаможнікаў, чым магла б карыстацца сялянская беларуская моладзь.

Вось справы, за якія трэба ўзяцца неадкладна, памятаючы аб хуткім надыходзе доўгіх зімовых вечароў.

М. БАРАВІК
В. ЛЕУЧУК

### Аляксей Туранкоў

На 73 годзе жыцця памёр адзін са старэйшых беларускіх кампазітараў Аляксей Туранкоў. Ён з'явіўся аўтарам папулярнага беларускага сімфанічнага твора — «Беларускай сюіты», якая была выдадзена яшчэ ў 30-я гады і набыла адабрэнне шырокай грамадскасці. Добра вядома таксама вялікая колькасць рамансаў і песень А. Туранкова на тэксты Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і іншых выдатных беларускіх паэтаў. Ім напісана шмат твораў інструментальнага жанру, апрацовак народных песень, хораў, яркая музыка да спектакляў беларускіх тэатраў і да першых нацыянальных кінафільмаў.

### Увага, чытачы!

**У наступным нумары пачнем друк успамінаў палымянага беларускага рэвалюцыянера, ураджэнца Беласточчыны Сяргея Прытыцкага.**

* * *

**У гэтым нумары пачынаем друк на стар. 4 хронікі партызанцкага атрада імя Каліноўскага які дзейнічаў ля Гарадка ў Беластоцкім павеце п.з. „Каліноўшчыкі" А. Амільяновіча.**

### Ужо сабрана 111.765 зл на пабудову Дома Помніка К. Каліноўскаму ў Беластоку

Як паведамляе Грамадскі Камітэт пабудовы Дома-Помніка К. Каліноўскаму, у Беластоку, ужо сабрана на пабудову гэтага дома 111.765 зл. У тым ліку Камітэт атрымаў 100.000 зл ад Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай.

Чытачы! Складайце добраахвотныя складчыны на пабудову Дома - Помніка.
Konto PKO 12-9-315 w Białymstoku.

## У IX гадавіну Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі



*Развіваецца балет у свабоднай Нямецкай рэспубліцы.*



*Доктар Штайтэр і інжынер Пайкэрт у лабараторыі Інстытута нежалезных металаў.*

7 кастрычніка 1949 года працоўныя Усходняй Германіі стварылі Германскую Дэмакратычную Рэспубліку — першую ў гісторыі Германіі дзяржаву рабочых і сялян. Рабочы клас і працоўнае сялянства ГДР пад кіраўніцтвам Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі ў кароткія тэрміны аднавілі гаспадарку краіны і дабіліся поспехаў ва ўсіх галінах эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця.

ГДР з'яўляецца важным фактарам міру ў Еўропе, надзеяй усяго германскага народа, які змагаецца супроць адраджэння мілітарызма і фашызма ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, за стварэнне адзінай міралюбівай дэмакратычнай германскай дзяржавы. Германская Дэмакратычная Рэспубліка, 9-тая гадавіна якой спаўняецца 7 кастрычніка 1958 года, займае дастойнае месца ў брацкай сям'і краін лагера сацыялізма.



*Баявыя групы рабочых Берліна, гатовыя ў любы момант абараніць Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.*

